# ПАГОНЯ

Чацвер
22 ліпеня 1999 г.
№ 46 (423)
Кошт 25.000 руб.


## У Гродне пачалі надзяваць кайданкі

**Яшчэ не пачалося агульнарэспубліканскае свята «Дзембель-99» (прысвечанае заканчэнню пяцігадовага тэрміну праўлення А.Лукашэнкі), а ў Гродне ўжо распачаліся арышты. Да таго ж, арышты суправаджаюцца канфіскацыяй рэчаў, надзяваннем кайданак і, канешне, адпрацоўкай прыёмаў баявога самба супрацоўнікамі міліцыі на грамадзянах.**

19 ліпеня ў 19.30 у г.Гродна (каля дома 42а, што па Бульвары Ленінскага Камсамола) следчы Ленінскага РАУС г.Гродна старшы лейтэнант міліцыі ды неўстаноўлены старшыня міліцыі затрымалі сябру Свабоднага Прафсаюза Беларускага Віктара Падчыненкава, які раздаваў улёткі.

Міліцыянты дзейнічалі па стандартнай схеме - павіталіся з Віктарам, схапілі яго за валасы, «заламалі» рукі і надзелі кайданкі. Для большай эфектыўнасці ўдарылі нагой у пахвіну, завезлі ў РАУС, забралі ўлёткі.

Наіўны затрыманы спрабаваў цытаваць міліцыянтам Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь у старой і новай рэдакцыі. Але нашых міліцыянтаў Канстытуцыяй «не возьмеш».

У сувязі з тым, што В.Падчыненкаў супраціўлення ахоўнікам парадку не аказваў і падпарадкоўваўся нават незаконным патрабаванням міліцыянтаў, выкарыстанне ў дачыненні да яго фізічнай сілы і кайданак выклікана хутчэй за ўсё з-за ўзгадвання ім Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Такія ўзгадванні (пра Канстытуцыю) у Гродне лічацца сур'ёзным праваПарушэннем.

**Валерый Леванеўскі**

## Сурава высяляюць па палітычных матывах

**Вядомы мастак Алесь Сураў атрымаў ліст з ЖЭС-11 жыллёва-эксплуатацыйнага ўчастка Ленінскага раёна Гродна з прапановай у трохдзённы тэрмін звярнуцца ў гарвыканкам з заявай аб добраахвотным скасаванні дагавора арэнды нежылога памяшкання і адмове ад яго.**

Трэба адзначыць, што гэта не першая спроба выселіць жывапісца з творчай майстэрні. Спачатку была нечакана ўзнята аплата за арэндаваныя плошчы да ўзроўню бізнес-класу —амаль каля 100 даляраў ЗША у месяц: такім чынам, мастака прыраўнялі да прадпрымальнікаў. Разам з тым, іншыя мастакі аплочваюць карыстанне майстэрнямі як за звычайную кватэру.

Гэтая гісторыя бярэ пачатак у красавіку бягучага года, калі супрацоўнікі абласнога ўпраўлення КГБ і крымінальнага вышуку аддзела ўнутраных спраў Ленінскага раёна Гродна сумесна правялі вобыскі ў рэдакцыі ПАГОНЯ, памяшканні абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша», а таксама на кватэры і на працы Алеся Сурава.

Следчыя прад'явілі санкцыю пракурора ў сувязі з распачынаннем крымінальнай справы па абароне гонару і годнасці кіраўнікоў Беларусі. Разам з іншымі матэрыяламі былі канфіскаваныя брашуры з палітычнымі карыкатурамі мастака А.Сурава.

Сам Алесь Сураў лічыць сваё выгнанне з майстэрні працягам ранейшага праследу і мае намер бараніць уласныя правы ў судзе.

**Антон Лабовіч**




## «Рэвізор» -падкідыш

**Шаноўны чытач! Калі ў цябе з'явілася думка параўнаць ніжэй напісанае са знакамітым «Рэвізорам» Гогаля (куды нам да яго), то гэтае параўнанне будзе чыста сімвалічным. Ды і сам сюжэт драбнаваты, інтрыга не тая. А мо...**

Ну вось і дачакаліся мы з Вамі, Аляксандр Іосіфавіч (наш губернатар), да нас прыехаў «Рэвізор»! З Магілёва, праездам праз Менск. Чаму «Рэвізор»? Зараз паспрабую растлумачыць.

Чытаю нядаўна ў адной з гарадзенскіх газет інтэрв'ю з гэтым загадкавым чалавекам. Вось яно: «Значит в Гродненской области Вы будете курировать сельское хозяйство?» Ответ: «Да, я буду курировать вопросы АПК». Вопрос: «А как выглядит ситуация в сельском хозяйстве Могилёва?» Ответ: «Я не вёл там вопросы АПК, поэтому не могу сказать.»(?!) Канец цытаты. Цікава, праўда? Дык чым усё-ткі займаўся загадкавы «товарищ» у Магілёве? А вось чым - гандлем, Чарнобылем, ды аховай прыроды.

Не ведаю, як вам, а мне гэтая «ратацыя» (паводле ягоных слоў) неяк не дападобы. Нейкая яна падазроная. Як там у Задорнава? Толькі чалавека, які нічога не ўмее рабіць, можна перакідваць з аднаго месца на другое - яму ўсё роўна. Вы мо яшчэ памятаеце гэтую практыку з савецкіх часоў? У ідэалогію з сельскай гаспадаркі і наадварот - з сельскай гаспадаркі - у ідэалогію. Абы крэсла было мяккае ды месца хлебнае.

І наогул, калі гэты «товарищ» сцвярджае, што Гарадзенская вобласць перадавая ў Беларусі, дык мо «ратацыю» правесці наадварот? Нашага чалавека ў Магілёў - няхай навучыць працаваць «незнаёмцаў» у іх дома, у Магілёве. Урэшце рэшт, дзіўная гэтая вобласць Магілёўская! Як працаваць дык так-сяк. А як кіраваць, дык у Магілёве ўжо сваіх пасадаў ды крэслаў не хапае. Дарэчы, высвятляецца, - не толькі ў ім адным (хіба што і Менску тугавата). Актыўныя «товарищи» ў Магілёве, адным словам. Вось толькі вынік іх працы - пшык. Як гаварыў класік: «Этое состояние запора при бурной работе организма».

Дарэчы, вы мо памятаеце? Тут не так даўно «наследил» начальнік КГБ з ...Магілёва. Цікава, дзе зараз тыя 55 тысяч даляраў ды тая кватэра? Ён жа выехаў у Менск. А цяпер адкажыце, шаноўныя, ці патрэбны быў гарадзенцам гэты КГБіст на некалькі месяцаў? Відаць, лепей тыя грошы было патраціць на пенсіі?

Таму сцвярджаю сваю даўнюю думку: урад і народ у нас жывуць паралельна адзін аднаму. Кіраўнікі - сваім жыццём, незалежным ад народа (электарата). Народ - сваім, вельмі залежным ад кіраўніка жыццём. На маю думку, гэта і ёсць «віртуальная рэальнасць». Толькі, праўда, аднабокая. Электарат жыве якраз рэальным жыццём пры віртуальным успрыманні свайго жыцця кіраўнікамі.

Аб чым гэта я?.. Ага, успомніў. Аляксандр Іосіфавіч! У сувязі з прыездам да нас гэтага «товарища» Вы, напэўна, зразумелі, «по ком звонит колокол». А я Вас не так даўно папярэджваў. Нельга было біць сваіх (маю на ўвазе спадара Домаша), бо «чужыя» ўсё роўна не баяцца. (Дарэчы, і дом адбіраць у «сваіх» гэтак жа брыдка, як і даваць грошы «чужому» на два). А цяпер, Аляксандр Іосіфавіч, давайце разам кумекаць, што гэткае нам у вобласці зрабіць, каб нам, далі Бог, не пачалі прызначаць зверху прыбіральшчыц. Бо ў нас таксама беспрацоўе ды і кватэраў тых па 55 тысяч даляраў не напасешся на ўсіх прышлых. Мо давайце збярэм свой савет і прымем свой Закон. Усё ж самім выбіраць і быць абранымі. Ды і час, Аляксандр Іосіфавіч, самы спрыяльны.

Прэзідэнта ў нас ужо няма, а дзве палаты людзей у такім выпадку двойчы нелегітымныя. А мо лепей было б увогуле правесці выбары (легітымныя) і выбраць сваё самакіраванне. Досыць ужо быць Магілёўскім бантустанам, не пасуе нам гэта. Увесь свет з нас смяецца! Што, мы - калекі ці дурні якія? Што да чалавека з Магілёва, дык пакінем яго, няхай папрацуе ў калгасе «Прагрэс» дублёрам старшыні. Мо гэта пойдзе на карысць той жа Магілёўскай вобласці.

Напісаў апошняе і паразважаў услых: «размечтался». Э-э-э, прагпынем, прагпынем мы ўсё гэта, як міленькія. Тая ж Расія аб нас боты выцірае і нічога, а тут жа «свае». «Чего изволите, господа», і спіна дугою - у нас пакуль атрымліваецца лепей, чым стаяць ва ўвесь рост. А вам слабо, Аляксандр Іосіфавіч, ва ўвесь рост?

**А.С.**

## Свята вызвалення Гродна: сціпленька, але з густам

**На мінулы ўікэнд Гродна святкаваў Дзень вызвалення. Самай яркай імпрэзай у рамках святкавання стала міліцэйская эстафета.**

Пра тое, што горад святкуе Дзень вызвалення, 16 ліпеня можна было даведацца хіба што па каляровых сцяжках на прыдарожных слупах. Ускладанне кветак і ўшанаванне герояў прайшло даволі сціпла для шэраговых грамадзянаў.Яшчэ якіх-небудзь імпрэзаў заўважана не было.

Затое ў суботу святочная праграма набрала абароты. У 12 гадзін папалудні на Савецкай плошчы распачалася міліцэйская эстафета. Рух грамадскага транспарту быў на нейкі час перакрыты, таму на плошчы сабралася значная колькасць цікаўных. Пасля стартавага стрэлу веласіпедная каманды з 10-ці аддзяленняў міліцыі вобласці распачалі эстафету. Веласіпедная гонка вакол сквера на Савецкай плошчы змянілася бегам у пажарнай амуніцыі. Затым шлях міліцэйскіх спартоўцаў пралягаў праз вуліцу Савецкую, Ажэшкі, Дзяржынскага аж да гарпарку імя Жылібера. З маланкавай хуткасцю міліцыянты праносіліся паўз знерухомеўшых гараджанаў, перадаючы па эстафеце, міліцэйская палачкі». Адразу пасля заканчэння спаборніцтваў адбылася цырымонія ўзнагароджання. Усе прызавыя месцы атрымалі гарадзенскія міліцыянты: І месца - ДАІ, ІІ месца - Кастрычніцкі райаддзел, ІІІ - АМАП.

Усе выходныя дні ў святочным рэжыме працаваў гарадскі парк адпачынку. Тут панавала дзятва. Прадпрымальнікі прапанавалі малечы сюрпрыз -новыя атракцыёны ў выглядзе вялізных надзіманых батутаў «Джунглі» і «Вусень». На змаганне з рознакаляровымі надзіманымі павукамі і лянамі выстраілася нават чарга. Прыемна здзівіў кошт квіткоў - 70 тысяч рублёў, што ўдвая менш, чым на каруселі.

З-за адсутнасці вулічных латкоў у дні святаў у горадзе было маналюдна. Адчуваўся дэфіцыт добрага піва. Аднак зборышчы бутэлек не адпачывалі, падлінsocieваючы чарговую ахвяру з «Жыгулёўскім» і нават «Кока-колай».

Рэха авіяцыйнага свята даносілася і да горада. «Кукурузнікі» кружылі над горадам два дні, прыводзячы ў захапленне дзяцей сваім ляскатаннем.

Неяк не хапала звыклых ужо для масавых святаў пікнічкоў на траўцы, разгульных кампаній і ўсеагульнага вяселля. Свята прайшло ціха і сціпла.

**Алена Сіневіч**

Перапрашаем нашых чытачоў за прыкрую памылку ў аўторкавым нумары ПАГОНІ ад 20 ліпеня.
Слова «філарэтаў» у артыкуле Юрыя Шастака («Камень Філарэтаў») трэба чытаць як «філаматаў».
Памылка адбылася па віне аўтара.

## Дзятлаўскі праект амерыканскай дапамогі

**Яшчэ ў 1946 годзе ў ЗША быў створаны няўрадавы Фонд «Heifer Project International». І зараз ён дзейнічае на пяці кантынентах у 132 краінах свету. За гэты час ён дапамог больш як аднаму мільёну чалавек. Зараз Фонд зандзіруе глебу і ў Беларусі.**

Пра гэта сведчыць першы дзелавы візіт у нашу краіну дырэктара Фонда па Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Рафала Ляскі. Гэта паляк, які 20 гадоў таму эміграваў у ЗША. У ліпеньскай паездцы па Беларусі яго суправаджаў каардынатар Фонда, прафесар Генрык Ясероўскі (Польшча), сапраўдны сябра Аграрнай акадэміі Расійскай Федэрацыі. Яны пабывалі ў Мінсельгасхарчы. І тут, як і ў Дзятлаўскім раёне, знайшлі паразуменне з боку беларускіх уладаў.

- У гэтага Фонда ёсць уплывовыя апекуны ў асобе знаных грамадскіх дзеячоў ЗША, - кажа дацэнт кафедры развядзення сельскагаспадарчай жывёлы Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута Уладзімір Осіпаў. - Але фінансы Фонда складаюцца выключна з добраахвотных унёскаў амерыканскіх фермераў-жывёлаводаў і асобаў, якія гатовы аказаць матэрыяльную дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу. Фонд не прызнае ні палітычных, ні рэлігійных, ні нацыянальных прыхільнасцяў. Ён дапамагае бедным, але працавітым і добрасумленным людзям. Дапамога гэтая спецыфічная і толькі ў галіне жывёлагадоўлі. Скажам, сям'і ў якасці дапамогі купляецца парадзістая цялушка. Пры гэтым новы гаспадар павінен аддаць бясплатна адну цялушку ці бычка другому чалавеку. А вось каму гэта вырашыць грамадскі савет, што складаецца з тых, каму патрэбна дапамога. А гэта ўжо форма самакіравання.

Падобны механізм дапамогі людзям прадугледжваецца Фондам і для Дзятлаўскага раёна. Пакуль у ліку кандыдатаў каля 20 сем'яў, і гэта неабавязкова калгаснікі. Жывёлу мяркуецца закупаць у племянных заводаў «Рось» і «Карэлічы» - не ў правілах амерыканцаў даравацьнізкапрадуктыўную жывёлу. Але замест цялушкі можна купіць і каня. Сваю задачу спадар Ляскі ў Беларусі выканаў. Цяпер справа за «малым» - канчатковае рашэнне аб фінансаванні дзятлаўскага праекта павінна быць прынята за акіянам...

**Вадзім Жураўлёў**

### НАДВОР'Е

**Тэмпература паветра па вобласці:**
**23-24 ліпеня** - пераменная воблачнасць, ноччу без ападкаў. Днём **23 ліпеня** і ноччу **24 ліпеня** месцамі дажджы, днём **23 ліпеня** на большай частцы - кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах - навальніцы. Вецер заходні 5-10 м/с, пры навальніцах - 15-20 м/с. Тэмпература паветра уначы +12...+17, удзень +24...+26. **24 ліпеня** - удзень +19...+24.

# Лукашэнка ідзе па слядах Назарбаева

**Калі хтосьці прачнуўся пасля 20 ліпеня з адчуваннем, што на Беларусі нешта здарылася з законамі матэматыкі - не наракайце на сваю дзяржаву. Адноснасць складання і адымання даўно даказаная яшчэ ў адной былой савецкай рэспубліцы - у Казахстане. У параўнанні з Казахстанам наша палітычная практыка - усяго толькі дзіцячая забава гарэзлівых падлеткаў.**

Прэзідэнт Нурсултан Назарбаеў з 1990 года па гэты час паспеў абрацца на агульны тэрмін у 21 год. У сакавіку 1990 года дэпутаты Вярхоўнага Савета Казахскай ССР аднадушна абралі яго прэзідэнтам на чатыры гады. Першага снежня 1991 года адбылося новае галасаванне, паводле якога Назарбаева пераабралі на пяць гадоў. Праз два тыдні, г.зн. 16 снежня, было абвешчана аб незалежнасці Казахстана, а краіна пачала называцца Рэспублікай Казахстан (РК). Атрымалася так, што нібыта Назарбаеў у новай краіне ўвогуле ніякі не прэзідэнт. Таму 29 сакавіка 1995 года быў праведзены рэферэндум па працягненню паўнамоцтваў Назарбаева яшчэ на пяць гадоў - да 2000 года. Але ўжо ў верасні 1998 года дэпутаты абедзвюх палат парламента: Мажаліса і Сената, папрасілі прэзідэнта перавыбірацца, але цяпер ужо не на пяць, а на сем гадоў. Упершыню былі праведзеныя выбары на альтэрнатыўнай аснове (праўда, інстытуты АБСЕ прызналі выбары нелегітымнымі), і Назарбаеў, які перамог усіх канкурэнтаў, інаўгураваўся 20 студзеня 1999 года. Такім чынам, чатыры гады + пяць гадоў + пяць гадоў + сем гадоў = 21 год.

У нас усё было значна прасцей. Галоўнай мэтай працягнення паўнамоцтваў прэзідэнта А.Лукашэнкі было жаданне застацца на гэтай пасадзе даўжэй за Барыса Ельцына, які здолеў пераабрацца летам 1996 года на чарговыя чатыры гады. Таму ў нас арыфметыка была скіраваная на тое, каб дачакацца адыходу Ельцына і з гарантаванай пасады беларускага прэзідэнта стартаваць на маскоўскае царства.

Таму так хваравіта ўспрымаецца прамаруджванне з «інтэграцыяй». Двухтысячны год надыходзіць няўхільна, з ім надыходзіць выбарчая кампанія па выбарах новага прэзідэнта Расіі, у якой пакуль што месца для Аляксандра Рыгоравіча не прадугледжана. Няма чаго думаць пад выглядам «інтэграцыі» адабраць прэзідэнцтва ў новага лідара Расіі, якім могуць стаць Ю.Лужкоў, А.Лебедзь, Р.Яўлінскі, альбо сесці над імі зверху ў якасці кіраўніка інтэграванай саюзнай дзяржавы. Таму прамежак часу да наступнага лета - адзіны рэальны шанец ускочыць у набіраючы хуткасць цягнік прэзідэнцкай гонкі. Інакш зноў давядзецца ўсё адкладваць на чатыры гады.

Непрыемна, што палітычны працэс у еўрапейскай Беларусі нагадвае ўсходнія інтрыгі азіяцкага Казахстана. Для нас гэтыя гульні цалкам чужыя. Аднак Казахстан, хаця і разрываецца кланавымі разборкамі, перадзеламі ўлады і ўласнасці, ніколі не выяўляў тэндэнцыяў прадаваць дараваную лёсам незалежнасць за пыхлівую амбіцыю пасядзець у Крамлі і панасіць ядзерны чамаданчык. Там, мяркуючы па ўсім, уладу трымаюць рэалісты.

**Сяргей Самасей**

# Усяму на свеце ёсць адзін пачатак і адзін канец

**20 ліпеня гэтага года спаўняецца пяць гадоў знаходжання А.Лукашэнкі на пасадзе Прэзідэнта Беларусі. Канстытуцыя рэспублікі - і стары і новы варыянты акрэсліваюць менавіта такі пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта.**

Але ёсць адзін пікантны момант, які знаходзіцца ў полі зроку палітыкаў і проста грамадзян: у 1996 годзе, падчас распрацоўкі «Заключных і пераходных палажэнняў» туды былі унесены наступныя артыкулы:

«Арт.144. Прэзідэнт РБ захоўвае свае паўнамоцтвы. Тэрмін яго паўнамоцтваў вызначаецца са дня ўваходжання ў сілу дадзенай Канстытуцыі».

Логіка ў гэтым артыкуле відавочна парушана. Атрымліваецца, што размова ідзе пра два тэрміны: пра той, які пачаўся ў 1994 годзе, у межах якога «Прэзідэнт РБ захоўвае свае паўнамоцтвы» і пра той, дзеянне якога павінна пачацца з новай даты, «са дня ўваходжання ў сілу новай Канстытуцыі».

Вы што-небудзь разумееце, чытач? Я асабіста не здольны ўцяміць, як гэта можна сумясціць. Здаровы сэнс падказвае, што толькі адзін тэрмін мае сілу. Паўнамоцтвы Прэзідэнта РБ пачаліся 20 ліпеня 1994 года. Гэта гістарычны факт, ліквідаваць які не можа ніхто, нават сам госпад Бог. Ад гэтага факта нікуды не падзенешся.

Вылічэнне падзеяў, як дзеянне матэматычнае, знаходзіцца па-за кампетэнцыяй прэзідэнта, парламента, народа, як бы ён ні галасаваў на рэферэндуме. Дарэчы, як прагаласаваў народ за артыкул 144? Гэтага не ведае ніхто. Народ на рэферэндуме не адказваў на падобнае пытанне, бо такога ў зразумелай, непасрэднай форме не было зададзена. Але і Канстытуцыя не прадугледжвае падобнага парадку працягу паўнамоцтваў прэзідэнта.

«Заключныя і пераходныя палажэнні», у якія быў уключаны артыкул 144, маюць такія ж пабочныя дачыненні да Асноўнага закона, як суправажальная да дакумента, з якім ён павінен ісці. Гэтыя палажэнні маюць кароткачасовы, службовы характар і закліканы (не парушаючы Асноўнага закона, канешне), забяспечыць парадак рашэння некаторых тэхнічных, арганізацыйных пытанняў.

Калі ж зыходзіць з юрыдычнага боку пытання, то ніякіх заключных палажэнняў не павінна існаваць у выглядзе нейкага дадатку да Канстытуцыі. Замест іх павінен быў быць распрацаваны ў свой час Вярхоўным Саветам РБ «Закон РБ аб уваходжанні ў сілу паправак да Канстытуцыі РБ».

Падобныя «палажэнні» не прадугледжаны ні Канстытуцыяй, ні законамі дзяржавы. Гэта прадукт апаратнай творчасці. Таму не дзіўна, што ў ім з'явіліся відавочна неканстытуцыйныя палажэнні: падаўжэнне паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі не з'явілася канстытуцыйнай праблемай. Гэта досыць асабістая праблема дадзенага палітыка. Чаму ж гэтае пытанне трапіла ў «Палажэнні»? З такім жа поспехам можна было б уключыць туды артыкул наступнага зместу: «Арт.145. Сідарау Іван Пятровіч з моманту ўваходжання ў сілу дадзенай Канстытуцыі атрымлівае адзіначасовую дапамогу ў памеры 100 000 даляраў».

Наогул, такім простым спосабам можна вельмі лёгка ўладкоўваць асабістыя справы. Урэшце рэшт імі пачынаюць цікавіцца кампетэнтныя органы.

Яшчэ раз падкрэслім: новае вылічэнне тэрміну падзеяў, якія ўжо здзейсніліся, з'яўляецца сапраўдным абсурдам. Змяніць гісторыю нельга, яе атрыбуты абсалютныя. Прэзідэнт, выконваючы свае абавязкі, не можа знаходзіцца адначасова ў двух тэрмінах. Як не можа чалавек мець двух узростаў. Відавочна, што адзін тэрмін з'яўляецца памылковым, -той, пачатак якога нехта лічыць такім звышыныльным, - па сутнасці справы, с дапамогай прыпіскі чыноўнікаў (чыноўніка), падрабязнасці не з'яўляюцца такімі важнымі.

Сапраўдны тэрмін знаходжання прэзідэнта РБ на пасадзе пачаўся 20 ліпеня 1994 года і павінен закончыцца 20 ліпеня 1999 года. Усё, што за рамкамі гэтага тэрміну, не стасуецца ні з законам, ні з логікай.

На мой погляд, ёсць адно някепскае выйсце для Лукашэнкі, калі ён не пажадае знаходзіцца ў гэтым двухсэнсоўным становішчы (якое абумоўлівае самыя разнастайныя наступствы), - звярнуцца ў Канстытуцыйны суд РБ. Будзем спадзявацца, што людзі, якія працуюць у ім, валодаюць дастатковым здаровым сэнсам і скажуць сваё слова, абапіраючыся на яго.

**Вячаслаў Аўсейчык**

# Моладзь — за здаровую Беларусь!

**18 ліпеня ў цэнтры Слоніма адбыўся моладзевы пікет, галоўным лозунгам якога было "Моладзь — за здаровую маладую Беларусь!". У пікеце бралі ўдзел 15 чалавек, якія прадстаўлялі шэраг слонімскіх моладзевых арганізацыяў, такіх як: Малады Фронт, Клуб Аматараў Беларускага Року, грамадскае аб'яднанне "Вертразь" і спартыўна-патрыятычная арганізацыя "Край".**

Удзельнікі акцыі імкнуліся прыцягнуць і засяродзіць увагу грамадства, перадусім моладзі, да праблемаў пашырэння венерычных захворванняў (пранцаў, ганарэі, СНІДу) і да жахлівых наступстваў гэтых хваробаў. Падчас пікету моладзь трымала плакаты: "Малады Фронт — за здаровую маладую Беларусь!", "Толькі шчырае каханне пераможа СНІД", "Памылішся ў маладосьці — запомніш на ўсё жыцьцё" ды іншыя.

Акрамя гэтага, моладзі раздавалі прэзервгтывы (на здымку) і друкаваныя інфармацыйныя матэрыялы.

**Алесь Масюк**



# Апошняе еўрапейскае папярэджанне

**Згодна з найбольш распаўсюджанай міжнароднай практыкай, Еўрапейскі Саюз нагадвае, што не прызнае ўрады і, тым больш, асобных палітычных дзеячоў, а прызнае дзяржавы. Такая заява ад імя старшынства Еўрапейскага Саюза апублікавана 20 ліпеня ў Хельсінкі і Брусэлі ў сувязі з «заканчэннем тэрміну першапачатковага мандата спадара Аляксандра Лукашэнкі, прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, абранага тэрмінам на 5 гадоў у ліпені 1994 года».**

У заяве адзначаецца, што «Еўрапейскі Саюз пацвярджае сваю падтрымку імкненню беларускага народа пабудаваць свабоднае, адкрытае, дэмакратычнае грамадства і выказвае сваё пажаданне ўстанавіць канструктыўныя двухбаковыя адносіны з гэтай краінай». Разам з тым ЕС падкрэслівае, што «для ўсіх еўрапейскіх дэмакратый легітымнасць палітычнай улады можа быць устаноўлена толькі ў выніку свабодных, дэмакратычных і справядлівых выбараў, назіраемых міжнароднай супольнасцю і самімі выбаршчыкамі».

Кіраўніцтва Еўрасаюза падзяляе пункт гледжання АБСЕ, што толькі арганізацыя свабодных выбараў дазволіць выйсці з канфрантацыйнай сітуацыі ў Беларусі. Еўрасаюз у гэтай сувязі заклікае ўсе зацікаўленыя бакі да пачатку дыялога «і вельмі спадзяецца, што за нядаўна агучанымі прэзідэнтам А.Лукашэнкам палажэннямі на карысць дыялогу з апазіцыяй для пабудовы ў Беларусі адкрытага і дэмакратычнага грамадства вельмі хутка пойдуць канкрэтныя прапановы», якія дазволяць у 2000 годзе правесці парламенцкія выбары, адпавядаючыя міжнародным прынцыпам, у тым ліку з выкананнем прынцыпу свабоды друку.

У заяве старшынства Еўрапейскага Саюза змяшчаецца таксама заклік да беларускіх улад вызваліць палітычных дзеячоў і парламентарыяў, якія знаходзяцца ў турме, і, у прыватнасці, былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.

# Волебек заклікае да дыялогу

**«20 ліпеня 1999 года заканчваецца пяцігадовы тэрмін Аляксандра Лукашэнкі, як дэмакратычна абранага прэзідэнта Беларусі», — гаворыцца ў распаўсюджанай пазаўчора кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ ў Менску заяве дзеючага старшыні АБСЕ — міністра замежных справаў Нарвегіі Кнута Волебека.**

Працяг Аляксандрам Лукашэнкам ў лістападзе 1996 года яшчэ на два гады тэрміну сваіх паўнамоцтваў, а таксама роспуск Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання і скасаванне канстытуцыйнай гарантыі раздзялення ўлад — нанеслі сур'ёзны ўдар па працэсу дэмакратычных рэформаў у Беларусі, гаворыцца ў заяве старшыні АБСЕ. Кнут Волебек заклікае да неадкладнага аднаўлення дыялогу з прыцягненнем усіх палітычных сіл Беларусі. Ён вітае нядаўні зварот прэзідэнта А.Лукашэнкі правесці ў наступным годзе ў Беларусі свабодныя і справядлівыя парламенцкія выбары, а таксама яго ную падтрымку ідэі нацыянальнага дыялогу паміж урадам і апазіцыяй па пытанні выбараў.

Старшыня АБСЕ падкрэслівае, што парламенцкія выбары, запланаваныя на 2000 год, павінны быць свабоднымі і справядлівымі. Для гэтага неабходна змяненне сітуацыі з правамі чалавека, роўны доступ да сродкаў масавай інфармацыі, адкрытыя дэбаты па тых сур'ёзных праблемах, з якімі сёння сутыкаецца Беларусь.

«Захады падаўлення і абмежавання апазіцыі з боку ўрада павінны быць спынены, — гаворыцца ў заяве. — Знікненне і арышт вядучых палітычных фігур і парушэнне крымінальнага заканадаўства краіны нанеслі вялікі ўрон міжнароднай рэпутацыі Рэспублікі Беларусь». АБСЕ заяўляе аб гатоўнасці зрабіць усё магчымае для садзейнічання дыялогу паміж урадам і апазіцыяй.

**Андрэй Асмалоўскі**

# «Жучок» як інструмент перамоваў

**Падчас перамоваў паміж дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання і членамі спецыяльнай рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, што прайшлі ў Менску 15 ліпеня, было знойдзена падслухоўваючае прыстасаванне.**

Паводле словаў аднаго з удзельнікаў перамоў Анатоля Лябедзькі, ніхто з удзельнікаў сустрэчы не быў здзіўлены знаходкай. «У Лукашэнкі ёсць проста маніякальная схільнасць — пра ўсіх усё ведаць», — сцвярджае А.Лябедзька. Ён прапанаваў, што Міжнародны адукацыйны цэнтр на праспекце Праўды, у будынку якога знаходзіцца офіс кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, можа быць «нашпігаваны» падслухоўваючымі прыстасаваннямі.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам кіраўнік кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік адмовіўся ад каментараў адносна гэтага.

**Алесь Абрамовіч**

# Амерыка шукае, каму аддаць грошы

**У аўторак у памяшканні грамадскага аб'яднання «Ратуша» адбылася сустрэча прадстаўнікоў Інфармацыйнай службы Амбасады ЗША, Праграмы малых грантаў Камісіі па развіццю дэмакратыі Наталлі Каляды і Канстанціна Падлузскага з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў Гродна.**

Спадарыня Каляда распавяла пра асноўныя накірункі дзейнасці Праграмы малых грантаў. Гэта, у прыватнасці, падтрымка грамадскіх ініцыятываў у сферы права, спрыянне развіццю незалежных сродкаў масавай інфармацыі ды грамадзянскай супольнасці. Па апошняму пытанню спадар Падлузскі дадаў, што паняцце «грамадзянская супольнасць» вельмі шырокае і не абмяжоўваецца толькі акрэсленнем з тлумачальнага слоўніка. «Мы хочам бачыць людзей актыўных, якія выходзяць з прапановамі, якія супрацоўнічаюць з кіраўніцтвам, а не сядзяць склаўшы рукі,» - сказаў ён.

Таксама было адзначана, што атрымальнікамі грантаў могуць быць і прыватныя асобы, і незарэгістраваныя арганізацыі. Галоўнае, каб праект належаў да адной з трох сфераў, развіццё якіх падтрымлівае Праграма малых грантаў Камісіі па развіццю дэмакратыі. Калі заява падаецца ад прыватнай асобы, пажадана мець тры рэкамендацыйныя лісты ад розных грамадскіх аб'яднанняў. Гэта робіцца дзеля таго, каб было вядома, што чалавек, які подае заяву, не з'яўляецца махляром, а сапраўды хоча зрабіць нешта карыснае для сябе ды іншых.

Асаблівую ўвагу спадарыня Каляда звяртала на бюджэт. Ён павінен быць максімальна дакладным і празрыстым. Сам праект павінен быць разлічаны не больш як на год і не можа мець бюджэт, большы за 24 тысячы даляраў. Палітычныя партыі не могуць разлічваць на атрыманне грантаў. Бо гэта супярэчыць пазіцыі Амбасады ЗША ў дачыненні да сённяшняй сітуацыі ў Беларусі.

Наталля Каляда і Канстанцін Падлузскі заахвочвалі ўсіх праяўляць грамадскую ініцыятыву. Яны са свайго боку паабяцалі, што ўсе заявы будуць уважліва разгледжаны. **Кантактны тэлефон Праграмы малых грантаў Камісіі па развіццю дэмакратыі: (0-17) 217-88-30. Адрас: Калінінградскі завулак 18-б, Менск 220012, Беларусь.**

**Рыгор Кавальчук**

# Дачныя «страдания»

**За гады змагання з харчовай праблемай грамадзяне перахварэлі «дачнай хваробай», набыўшы да рознага кшталту летнікаў, фазэндаў, фермаў, надзелаў стойкі імунітэт. «Дачныя» ж аўтобусы пасажыры даўно ахрысцілі «газавымі камерамі».**

## Прадам дачу. За так

Каля 15 гадоў таму дзяржава дзеля вырашэння харчовай праграмы надзяліла ўсіх жадаючых гараджан шасцю соткамі. Да двух складнікаў шчасця - кватэры і машыны - дадаўся яшчэ адзін. Дача. Грамадзяне з імпэтам пачалі араць няўдобіцы за горадам, выдзіраць дзірван, каб пасадзіць традыцыйныя гуркі, бульбу, клубніцы. Нарэшце ў савецкага чалавека з'явілася ілюзія такойсякой уласнай гаспадаркі. Таму ўсе выхадныя і водпускі грамадзяне заўзята «пахалі» на фазэндах, апошнія грошы бухалі ў дачныя домікі. Што атрымалася ў выніку - бачым толькі цяпер. Дачы ў большасці сваёй не могуць вырашыць ні харчовую праблему, ні стаць месцам нармальнага загараднага адпачынку.




За вылікам некаторых «фанатаў», што ператварылі свой участак у цуд агранамічнага мастацтва, большасць шчаслівых уладальнікаў дачаў хутка расчаравалася ў мажлівасці пракарміць сям'ю з шасці сотак. Просты падлік грошай, патрэбных на апрацоўку надзелу, пераконвае, што танней улетку назапасіць гародніны, намарынаваць гуркоў і не дурыць сабе галавы. Такія рацыяналісты проста засяваюць сваю гаспадарку травой і на ўікэнд прыязджаюць на дачу паганяць мяч. Прычым падчас гэтых нявінных гульняў на «гультаёў» звычайна зыркаюць з-за плоту зайздросныя вочы спечаных сонцам агароднікаў.

Ёсць яшчэ адзін спосаб скарыстаць дачу. Адзін разумнік прывёз туды цешчу на пастаяннае пражыванне. Цешчыну кватэру на Гомельшчыне прадалі, грошы падзялілі, а старую пасялілі на дачы. Тая ўжо з год і ўзімку, і летам, так і жыве адна на той фазэндзе. Па-свойму прызвычаілася. Паколькі ні сын, ні ўнукі дроваў на зіму не назапасілі, сячэ дрэвы і паліць іх сама (заўважым - бабулі за 70 гадоў). Аднак, як вядома, адной жыць сумна, доўга цягнуцца зімовыя вечары. З надыходам вясны старая ўскопвае суседзям гароды за паўлітру. У буднія дні, калі навакольныя ўчасткі пустуюць, папаўняе свой рацыён суседскімі гуркамі і клубніцамі. Так і жыве.

Большасць жа людзей даўно марыць пазбавіцца ад цяжару, якім стала дача. Аднак і прадаць яе цяпер нялёгка, бо цэны ўпалі да смешнага. На кожнага пакупніка, які патрабуе цагляны домік са святлом, культурны ўчастак ля вадаёма, добры сад, калодзеж, хлеў, знаходзіцца каля 20-ці аб'яваў «прадам дачу». Пры такім невялікім попыце добраўпарадкаваны ўчастак з немалым домам недалёка ад горада купляюць за 1,5-1,8 тысячы даляраў. Гэтыя грошы не пакрываюць нават кошт будматэрыялаў і працы. Таму дачнікі трымаюцца да апошняга, з лаянкай цягнучыся ў вольную хвіліну на абрыдлую прапалку ці паліўку. Тут паўстае апошняе, але самае цяжкае пытанне - як дабрацца да той дачы.

## Хто апошні ў гэтую душагубку?

У цяжкія, ці, як цяпер модна гаварыць, крызісныя часы ў ліку першых барахліць транспарт. У Гродне з грамадскім транспартам даўно існуюць праблемы. У прыгарадныя аўтобусы ў выхадныя дні папросту не ўбіцца. Дайшло да таго, што пенсіянеркі займаюць чаргу на прыгараднай платформе за дзве-тры гадзіны да адпраўлення аўтобуса. За 54 так званых «сидячих» месцы ў ікарусе з гармошкай ідзе спаборніцтва ўсімі сродкамі і спосабамі. Яшчэ б! У аўтобус, разлічаны прыкладна на 150 месцаў, шчыльна набіваецца недзе чалавек 250 - ўздыхнуць цяжка. Пры тым, што ехаць даводзіцца паўтары гадзіны, «сидячее» месца ідзе на вагу золата. Усе пасажыры маладзей за 25 год бязлітасна зганяюцца з крэслаў ваяўнічымі пенсіянерамі. У дачным аўтобусе маладосць лічыцца заганай. Выслоўе тыпу «Не цяжарная, пастаіць!» на адрас дзяўчынкі-падлетка тут ні ў каго не выкліча абурэння.

У жорсткіх умовах дачнага аўтобуса сапраўды пануе закон джунгляў, дзе выжывае мацнейшы. У шчыльным гарачым натоўпе цяжка стаяць, дыхаць. У аўтобусе на вёску Лукавіца, які як заўсёды цягнуў з адпраўкай, у мінулую суботу пасажыры пачалі выяўляць незадавальненне. Пакуль адна смелая жанчынка крычала жартам «Паехалі, а то самлею! Мне, можа, дрэнна, у мяне, мо сэрца хворае!», другі пасажыр, мужчына сярэдніх год, сапраўды самлеў. Яго хутка апырскалі мінералкай «Фрост» і ўрэшце ад'ехалі.

...Напачатку 90-х было нашмат, у тры-чатыры разы болей рэйсаў дачных аўтобусаў. З наступствам энергетычнага крызісу, перабояў з бензінам рэйсы паадмянялі. Ды толькі пасажыраў не паменела. З пытаннем наконт таго, ці зменіцца сітуацыя з дачнымі аўтобусамі да лепшага, мы звярнуліся да дырэктара аўтапарка N 1 Івана Пракопчыка. І вось што пачулі: «Ну што вы заводзіце нейкую каніцель? На колькі чалавек разлічаны аўтобус? А вы паспабуйце змясціць столькі, на колькі разлічана! Як гэта зрабіць - вадзіцелю перад астатнімі дзверы зачыніць? Рэйсы павялічвацца не будуць. Таму, што яны вызначаныя дагаворам з таварыствам. За колькі рэйсаў таварыства плаціць - столькі і возім».

Мы, канешне, разумеем, што транспартнікі, напэўна, невінаватыя ў гэтай сітуацыі. Тое, што людзі вымушаны шчаміцца ў салон, як селядцы ў бочку, не думаючы ні пра якую тэхніку бяспекі, залежыць не ад шафёра, а ад праблемаў з палівам, адсутнасцю новых аўтобусаў і шмат чаго яшчэ. Аднак чым кіруюцца адказныя таварышы ў дачным таварыстве, рэгламентуючы рэйсы - не зразумела.

Дырэктар аўтапарку сцвярджае, што кошты аўтобусных білетаў вызначаныя з разлікам акупаемасці паездкі. Праўда, кошты гэтыя былі ўстаноўленыя ў лютым. Дык чаму, калі рэйсы акупляюцца, не зрабіць пачалавечы, каб месцаў ў аўтобусах усім хапала? Напэўна, таму, каб жыццё мёдам не падавалася.

**Алена Сіневіч**

# Курсы валют

**На 21 ліпеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 265.000 беларускіх рублёў. Еўра — 275.242,25. Нямецкая марка — 140.729,13. Расійскі рубель — 10.920.

У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся. На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 21 ліпеня даляр куплялі па 435.000—440.000 і прадавалі па 445.000—450.000 рублёў. У параўнанні з аўторкам курс не змяніўся.

# Фінансы хутка зайграюць марш

**На сёння знешні доўг Беларусі складае каля 927 мільёнаў даляраў ЗША, заявіў міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут у інтэрв'ю газеце «Звязда». Ён падкрэсліў пры гэтым, што «прымальны» для рэспублікі паказчык — ліміт доўгу — складае 2 мільярда даляраы ЗША.**

Паводле словаў міністра, знешні доўг скараціўся ў параўнанні з пачаткам года. За мінулы перыяд у парадку пагашэння і абслугоўвання знешняга доўгу была выплачана сума, эквівалентная 70 мільёнам даляраў ЗША. Пры гэтым, як сцвярджае М.Корбут, пратэрмінаваных чыста дзяржаўных запазычанасцяў перад знешнімі інвестарамі няма, а ёсць даўгі прадпрыемстваў, якія некалі ўзялі крэдыты, але не здолелі забяспечыць іх своечасовага пагашэння.

Згодна з папярэднімі звесткамі, пратэрмінаваная запазычанасць прадпрыемстваў склала на 1 ліпеня г.г. 22,1 мільёна даляраў ЗША. Крэдыты браліся пад урадавыя гарантыі, і дзяржава, адзначыў міністр, змушана плаціць па ўсіх рахунках, «каб не страчваць імідж надзейнага пазычальніка». Праблема ж, паводле сцвярджэння М.Корбута, у тым, што сёлета паступленні ў бюджэт падаткаў у выглядзе валютных плацяжоў зменшыліся ў параўнанні з 1998 годам прыкладна на 30 працэнтаў.

Міністр фінансаў Беларусі таксама прызнаў, што знешніх крэдытаў у краіну ідзе вельмі мала, у прыватнасці, у 1999 годзе паступіла толькі 10,5 мільёнаў даляраў ЗША па старых крэдытных лініях і прызначаны гэтыя сродкі для суб'ектаў гаспадарання.

**Ягор Звоннікаў**

# З выявай Каложскай царквы

**20 ліпеня 1999 года Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне памятныя манеты серыі «Помнікі архітэктуры Беларусі» з выявай Барысаглебскай царквы ў Гродне: срэбраную — вартасцю 20 рублёў і медна-нікелевую — вартасцю 1 рубель.**

Як паведамілі у Нацбанку, на вонкавым баку манет размешчана рэльефная выява дзяржаўнага герба, пад ім указаны год чаканкі, для срэбранай — маса каштоўнага металу ў чысціні і проба сплаву. На адваротным баку манет размешчана: у цэнтры — рэльефная выява Барысаглебскай царквы; на плоскасці ў выглядзе старажытнай пячаткі ўказана дата: XII, уверсе — на рэльефнай паверхні — надпіс у тры радкі: «Барысаглебская царква Гродна». Наклад срэбраных манет — 2000 штук, медна-нікелевых таксама 2000 штук.

**Аляксей Арэшка**

# Ільготы для замежнага капіталу

**Замежныя і сумесныя банкі, якія працуюць у Беларусі, атрымаюць права на ільготы як вытворцы ўласных работ і паслуг. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове ўрада «Аб унясенні дапаўненняў у некаторыя пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь».**

У прыватнасці, уносіцца дапаўненне ў пастанову «Аб парадку аднясення прадукцыі замежных і сумесных прадпрыемстваў, дзеючых на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, да прадукцыі ўласнай вытворчасці», згодна з якой дзеянне дакумента распаўсюджваецца на замежныя банкі, а таксама на банкі з удзелам замежнага капіталу больш за 30 працэнтаў. Акрамя таго, унесена дапаўненне ў пункт 1 пастановы Савета Міністраў «Аб аднясенні работ і паслуг суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь да работ і паслуг уласнай вытворчасці». У адпаведнасці з ім замежныя і сумесныя банкі таксама аднесены да суб'ектаў гаспадарання, прыналежнасць работ і паслуг якіх да работ і паслуг уласнай вытворчасці сведчыцца сертыфікатам Беларускай гандлёва-прамысловай палаты. На думку ўрадавых экспертаў, прыняты дакумент павышае статус замежных і сумесных банкаў ва ўзаемаадносінах з дзяржавай і партнёрамі. Сярод ільгот, якія прадастаўляюцца па дзеючым заканадаўстве ў гэтым выпадку, прадугледжана вызваленне ад падатку на прыбытак у першыя тры гады дзейнасці, вызваленне ад абавязковага продажу валюты ад экспартнай выручкі ды іншыя.

**Аляксандр Паповіч**

# Клопат пра хлеб надзённы, якога ўсё менш

**У апошнія дні сакавіка бягучага года прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг наведаў Гарадзеншчыну і прыняў удзел у нарадзе, прысвечанай пасяўной. Былі агалошаны лічбы, якіх сёлета павінна дасягнуць вобласць у вытворчасці асноўных відаў прадукцыі раслінаводства. Зерня плануецца атрымаць 32,4 цэнтнера з гектара, бульбы - 177, цукровых буракоў 355, ільновалакна - 7 ц/га. Вобласць планавала поўнасцю перайсці на самазабеспячэнне прадуктамі харчавання.**

Сёння ўжо зразумела, што гэтыя паказчыкі нерэальныя. Мясцовыя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі з асцярожным песімізмам нагадваюць пра неспрыяльнае надвор'е і прыродныя анамаліі. У траўні падмарозіла, а ў чэрвені добра-такі падсушыла. Паўночныя раёны Гарадзеншчыны амаль паўтара месяца не бачылі ані кроплі дажджу. Але гэта толькі адзін са складнікаў ураджаю.

Тэхналагічны ланцужок уключае запраўку глебы арганікай, якаснае насенне, сродкі барацьбы са шкоднікамі раслінаў, энерганасычаную тэхніку, падрыхтаваныя кадры механізатараў, разумны агранамічны манеўр. Не кажучы пра фінансавыя рэсурсы. У цэлым забеспячэнне тукамі напярэдадні пасяўной склала 60 працэнтаў да патрэбнага. Узнікалі праблемы з фосфарнымі і азотнымі ўгнаеннямі. З большага назапасілі калійных. Турбавала становішча са сродкамі хімічнай абароны раслінаў ад шкоднікаў. У параўнанні з мінулым, 1998 годам, усяго гэтага было на парадак менш. Прадпрыемствы аграхімсервіса ў мінулым годзе выканалі даведзеныя планы па вапнаванню кіслых глебаў толькі на 64 працэнты.

Аднак пасяўныя плошчы пад пшаніцу былі пашыраны з леташніх 55,3 тысячы гектараў да 60,4 тысячы сёлета. Азімае трыцікале адпаведна з 33,8 тысячы да 49,3 тысячы гектараў. Яравы клін зерневых і зернебабовых складае 244 тысячы гектараў. Амаль 20 тысячаў гектараў занялі плантацыі азімага рапсу, 55 працэнтаў якога пасля зімоўкі неабходна было перасеяць, бо культура часткова вымерзла, а часткова была моцна зрэджана.

Асобная гаворка пра тэхнічнае забеспячэнне калгасаў і саўгасаў. Сельгаспрадпрыемствы вобласці маюць 3,5 тысячы зернеўборачных камбайнаў. Большасць з іх - 15-16-гадовае ламачча, якое даўно пара спісаць на металалом. Адсутнасць грошай для набыцця новых агрэгатаў прымушае латаць-пералатваць старыя механізмы. У асенне-веснавы перыяд 486 адзінак капітальна адрамантавалі. Летась гаспадаркі вобласці атрымалі ўсяго сто новых камбайнаў. Каля шасцідзесяці чакаецца сёлета. У мінулым годзе на адзін камбайн падчас уборкі прыпадала 118 гектараў зерневых і зернебабовых культур. Гэта значна перавышае абгрунтаваную норму. Недасканалая і фізічна састарэлая тэхніка прыводзіць да страты сямі цэнтнераў зерня на кожным гектары.

Мінулы год прынёс несуцяшальныя вынікі. Хаця Гарадзеншчына амаль па ўсіх паказчыках была лепшай ў рэспубліцы, аднак валавы збор зерня ў вобласці скараціўся на 11 працэнтаў. 66 гаспадарак ці 22 працэнты ад агульнай колькасці атрымалі ўраджайнасць збожжавых да 20 ц/га. Толькі 11 калгасаў і саўгасаў узялі на круг вышэй 40 ц/га. У дзяржаўныя рэсурсы з Наднёманскага краю паступіла 277,7 тысячы тон зерня.

У мінулым годзе аграрны сектар Гарадзеншчыны атрымаў 1040 тысяч тон зерня. Па міжнародных стандартах лічыцца, што трэба мець тону зерня на чалавека ў год. У вобласці жыве 1183,3 тысячы жыхароў.

Зараз гаспадаркі распачалі ўборку зерневых на больш прыдатных участках. Ураджайнасць пакуль што складае 21 цэнтнер з гектара. Летась гэты першапачатковы паказчык дасягаў амаль 33 ц/га. Ураджайнасць у цэлым па вобласці у мінулым годзе была 29,3 цэнтнера з гектара. Сёлета спадзявацца на добры ўраджай могуць толькі калгасы і саўгасы цэнтральнай часткі Гарадзеншчыны. Шмат дзе спадзевы на добры ўраджай знішчыла чэрвеньская сухмень. Нядаўнія ўраганныя ветры таксама зрабілі шкоду пасевам. У многіх месцах збажына палегла.

Наша гаворка закранала толькі зерневыя культуры. Не лепшае становішча з бульбай, цукровымі буракамі. Не трэба спадзявацца на вялікае малако: з першага ўкосу нарыхтавана малая колькасць сена, сенажу і сіласу. Магчыма, крыху выправіць становішча кукуруза. Не будзе дастаткова і мяса.

Грамадзяніну застаецца спадзявацца на ўласныя «соткі». Урэшце, свая зямелька не раз выручала. Не падвядзе і цяпер.

**Антон Лабовіч**



Дажыліся да таго, што нават убіраць хлеб няма чым

# «Беларуская бомба» ў Гарадку

**16-17 ліпеня адбыўся выбух «беларускай бомбы». І як выбухнула! «Басовішча-99» прайшло надзвычай удала і гучна. Былі і ахвяры: сёй-той з мясцовых захварэў на рок-н-рол.**

**Галоўным прызёрам фестывалю маладой беларускай музыкі «Басовішча-99», які прайшоў у мінулыя выхадныя ў Беластоцкім ваяводстве Рэспублікі Польшча стаў рок-гурт «Exist», які цяпер зможа бясплатна запісаць свой альбом на беластоцкай фірме «Герц». Па апытанні слухачоў прыз сімпатый атрымала менская каманда «Зьніч». Арганізатары фестывалю — Беларускае аб'яднанне студэнтаў — прысудзілі свой прыз гуртам «Deviation» з Гродна і «Алесюкі» з пасёлка Гайнаўка. У пазаконкурснай праграме выступілі вядомыя беларускія гурты «N.R.M.», «Уліс», «Новае неба» і польская каманда «Kult». Вялікую падтрымку ў арганізацыі фестывалю аказалі Міністэрства культуры Польшчы, польскі Фонд Стэфана Баторыя і Цэнтр грамадскай адукацыі «Польшча—Беларусь».**

Двухтысячнае мястэчка Гарадок ляжыць у 81-м кіламетры на поўдзень ад Беластоку. Нібыта простае польскае мястэчка, але... Калі ідзеш па вуліцы ды чуеш, як мясцовыя жыхары размаўляюць па-беларуску, з'яўляецца ілюзія, што вось ты і трапіў у гэтую сапраўдную, міфічную беларускую Беларусь. Аднак гэта толькі Польшча. Нават тое, што ў Гарадку жыве 65 працэнтаў беларусаў, не выратоўвае ад разумення, што ты на чужыне. А шкада...

Тым часам мы ўжо за мястэчкам. На ўскрайку лесу, пры сцэне, завіхаюцца будаўнікі - ім яшчэ шмат працаваць, але час пакуль ёсць. Раптам ззаду пад'язджае сапраўдны БТР, размалёваны ў колер бровару «Dojlidy», аднаго са спонсараў фестывалю. З БТРу пачынаюць выцягваць бочкі з півам. Адну, дзве, тры, чатыры, пяць... Вой, бедная мая галава! Але гэта потым, зараз трэба паставіць палаткі.

Палатачны гарадок патроху запаўняецца. Людзей усё прыбывае і прыбывае. Нехта ўжо паспеў напіцца, але гэта асобныя выпадкі. Большасць фанатаў року пакуль яшчэ ў стане трымацца на нагах. Пачынаецца дождж. Ён прымушае схавацца ў палатку. Тут ужо становіцца не да жартаў. Адкрыццё пераносіцца на паўгадзіны пазней, потым - яшчэ на гадзіну. Урэшце дождж скончыўся. «Басовішча-99» можна лічыць адкрытым! У-у-у-у-у!!!» Публіка, якой сабралася пакуль толькі паўтысячы, сустракае гэтыя словы вядучага з вялікім энтузіязмам.

На сцэну выходзяць «The Dvery». Калі чуеш, як мініяцюрная Каська «страшэнным» голасам спявае песні на вершы беларускіх аўтараў, гэта нешта непаўторнае! Менавіта вось такі кантраст і выклікае непадробнае зацікаўленне да гэтага гурта. Недарма яны перамаглі на «Басовішчы» два гады таму. Карацей кажучы, гэта трэба было пачуць самому, што зараз расказваць.

Наступнымі выступаюць «Veritas», мінулагодні ўдзельнікі фестывалю. Добры роўны гук, моцны драйв, цікавыя тэксты (прыкладам, «Крывавае мястэчка», прысвечанае забітаму сябру ўдзельнікаў гурта). Гэты гурт можа падабацца. Аднак, як скардзіліся і «Veritas», і «The Dvery», яны не маюць «раскруткі» у нас. Таму іх творчасць фактычна застаецца нікому не патрэбнай, а яны самыя граюць, бо «любяць гэта рабіць».

А восьмай гадзіне пачынаецца конкурсная частка. Першым выступае «Зьніч». Цяжкая музыка ды паганскія спевы - вось што забяспечыла «Зьнічу» ўзнагароду публікі. Менскі «Млын» з меладыйным рокам вельмі спадабаўся, але журы яго не ацаніла. А вось «EXIST» - наадварот. Хлопцы граюць так званы эксперыментальны рок, і гэта ў іх нядрэнна атрымліваецца. Песні вельмі завадныя, а «Памыліўся» дык увогуле спадабалася ўсім і, напэўна, пры добрай «раскрутцы» стане хітом. Узнагарода войта гміны Гарадок Яўгена Семянюка і студыі «Herz» - заканамерны вынік.

Аб'ектыўна слабейшыя польскія гурты «Алесюкі» (Гайнаўка) і «Dober Marian» (Беласток) не выклікалі ў публікі цікавасці. Затое «Zdrowie na Budowie band» (Беласток) тут прымалі як зорак. Публіка, якая ўжо дайшла да кандыцыі, весялілася на ўсю моц. І тут на сцэну выйшлі «Deviation». Моцнае гучанне, рыканне Стаса і, безумоўна, «супер-зорка» Аронаў... Гэта быў татальны ўлёт. Асабліва, калі Аронаў не граў на трубе (а гэта амаль 90 працэнтаў усяго выступу), ён рабіў выгляд, што ўсё тое, што адбываецца на сцэне, яго не датычыць, а ён папросту заблукаў. Шоу было непаўторнае. Журы ацаніла іх выступ узнагародай Старшыні Беларускага Саюза ў Польшчы.

Адказваючы на пытанне, чаму менавіта «Deviation» атрымаў гэтую ўзнагароду, сябра журы Віталь Супрановіч з «Беларускай Музычнай Альтэрнатывы» сказаў: «Я не ведаю, што там хто вызначаў, але што я напісаў, тое ўсё супала: «EXIST», «Deviation», «Зьніч». У гэтым годзе хацела прыехаць шмат маладых гуртоў. Аднак арганізатары захацелі сабраць усе больш-менш вядомыя гурты. Свята як ніяк. Але ўжо ў наступным годзе ёсць ідэя зрабіць фестываль цалкам з маладымі гуртамі, запрасіўшы адну ці дзве зоркі. Бо зацікаўленнасць сапраўды вялікая. Сёлетнія ўдзельнікі «EXIST» і «Млын» прыехалі нават за свой кошт».

Выступ гурта з Англіі - «Meyze»- не выклікаў асаблівай зацікаўленасці з боку гледачоў, якіх на той момант сабралася больш за тысячу. Напэўна, гэта было выклікана тым, што замест аб'яўленага панк-фанку гурт пачаў граць поп-рок. На жаль.

Адпакутаваўшы на «Meyze», публіка добра адпачыла падчас выступу гарадзенскага «Кальяна». Вакаліст «Кальяна» Алесь Дзянісаў разам са скрыпачом Яршом стварылі цікавае відовішча. Першы паказваў розных «паламаных робатаў», а другі - вельмі файна танчыў. Публіка з'язджала з глузду. Часткова гэта было падмацавана тым, што ўсе чакалі выступу польскіх зорак вечару - «Sweet Noise». І гэты час надыйшоў. 15 хвілінаў настройкі - і ўжо ўвесь лес напоўнены цяжкім металёвым гучаннем. Цяжкія гітарныя рыфы, глыбокасацыяльныя тэксты. Вось што забяспечвае поспех гэтаму польскаму гурту... Тое, што на выступ «Sweet Noise» сышлося больш за дзве тысячы людзей, таксама сведчыць пра многае.

Стомлены начной дарогай ды вельмі насычаным першым днём, хутка збягаю спаць, не дачакаўшыся канца выступу. Заўтра, ў сэнсе сёння, бо ўжо далёка за гадзіну, будзе яшчэ больш цікава...

Праспаўшы да дзесятай гадзіны (у школу, ва «ўнівер», на працу - не трэба), неахвотна падымаюся. Што рабіць да шостай? Кожны адказвае на гэтае пытанне па-свойму. Нехта пахмяляецца. Большая частка ідзе ў мястэчка па піва і віно «на вечар». Гарэлку, зразумела, беларусы прывезлі сваю. Хоць у нечым мы сапраўдныя патрыёты. Вырашыўшы, што няма чаго рабіць, іду спаць, каб набрацца сілаў на сённяшні вечар і ноч.

Недзе каля чацвёртай гадзіны пачынаюцца рэпетыцыі і настройкі. Гэтым разам адныя зоркі: «Новае Неба», «Уліс», «N.R.M.», «Палац», «Крама». І людзей значна больш, чым учора, але ўсё асноўнае яшчэ наперадзе.

Ад шостай да сёмай адбываецца кароткая прэзентацыя ўсіх пераможцаў «Басовішча-99». На «Зьніч», за тое, што яны праспявалі тры песні замест дзвюх, за сцэнай накрычаў арганізатар. Дробязь, а непрыемна. «Deviation» яшчэ раз запрасіла ўсіх прыйсці ў святочны дзень 21 ліпеня пад беларускае консульства ў Беластоку і там урачыста яго адзначыць. Яны выканалі новую песню «Секс з прэзідэнтам», прысвечаную гэтай даце. Потым быў выхад «EXIST». І вось ён - даўгачаканы канцэрт зорак!

Першым выступае «Палац». Як заўжды, моцныя фолкавыя матывы, вакал Хаменка ды нешта там новае. У некаторых песнях Зміцер Вайцюшкевіч чытае рэчытатыў, што глядзіцца вельмі нетрадыцыйна. Шкада толькі, што на ангельскай мове. А пасля выступу «Палацу» некалькі фанатак, якія нейкім чынам прарваліся за сцэну ледзь не разарвалі Зміцера на часткі. А пасля гэтага іспыту ён трапляе ў мае рукі. Пытаюся ў яго пра «Басовішча». «Як «Крыві», я вельмі пакрыўджаны, -кажа Зміцер, - бо лічу што «Крыві» зараз адзін з самых папулярных беларускіх гуртоў. Як «Палац» - шмат думак. Галоўнае - трэба развівацца, трэба мо пайсці ў іншым рэчышчы, трэба змяняцца. Каб быць першым, трэба шукаць». У адрозненне ад Вайцюшкевіча Алег Хахаменка значна больш гаваркі. «Я таму і прывітаўся «Добрага ранку», бо людзі зусім ніякія, публіка стаіць, - кажа ён. - Ну што казаць пра «Басовішча»? Мы ўжо сёмы раз тут. Мы ўжо ведаем, што будзе. Будзе недзе больш вольна, недзе - больш афіцыйна, недзе - «Басовішча». Вось такое штосьці бел-чырвона-белае... Калі запросяць, у наступным годзе таксама прыедзем».

Пасля «Палацу» выступае «Крама». Стары добры рок-н-рол. Без розных непатрэбных рэчаў. Нічога не адняць, нічога не дадаць. Я заўважаю ў натоўпе Віктара Шалкевіча, які махае бел-чырвона-белым сцягам. Пытаюся ў яго пра сёлетняе «Басовішча». «Во! - уздымае ён палец дагары. - Чаму не граю? Я буду граць на дзесяцігоддзі БАСу ў Белай Вежы, 18 верасня».

Людзі ўсё падыходзяць і падыходзяць, іх ужо болей як учора. На сцэну тым часам выходзяць «Новае Неба». Пакуль музыкі ладзяць свае інструменты, Кася Камоцкая спявае а-капэла «Божа, забяры маё жыццё». Гэта гучыць выдатна і вельмі чулліва. «Уражанні спрэчныя, - кажа Кася пасля выступу. - Гэта, з аднаго боку, добрая сцэна, добры апарат, добрая арганізацыя, але губляецца тая самая беларускасць, беларускі дух. Фестываль ператвараецца ў камерцыю. Польскім гуртам, якія запрашаюць, плоцяць на шмат болей, чым беларускім. З аднаго боку добра, што фестываль перастаў быць местачковым, лакальным. Добра, што ён ператвараецца ў нешта лепшае. Бо гэта адзіны такі фестываль не толькі ў Польшчы, але і на Беларусі. Хацелася б яшчэ сюды прыехаць...»

На сцэне «Уліс». Вось што такое сапраўдны рок! Нічога непатрэбнага, толькі гітара, бас і бубны. Плюс глыбокія па сваім змесце тэксты. Толькі там, на «Басовішчы», я зразумеў, чаму ўсе так усхваляюць «Уліс» ды Славу Кораня. Сапраўды, калі не чуеш і не цікавішся, вельмі шмат рэчаў застаецца па-за кадрам. Аднак «Уліс» не можа быць па-за кадрам. Таму што «Уліс» - гэта неад'емная частка беларускай культуры, адна з лепшых яе частак.

«Я пакуль нічога добрага сказаць не магу. Штогод арганізатарам трэба даказваць, што ты - зорка. Але тут жывуць людзі, якім патрэбна гэтая музыка, якім патрэбны гэты фестываль. Нават калі іх будзе толькі два ці тры чалавекі, мы ўсё роўна будзем прыязджаць», - адказвае Слава Корань на пытанне наконт сёлетняга «Басовішча».

Перад выступам «N.R.M.» каля сцэны ўжо сабралася недзе чатыры тысячы гледачоў. Публіка ў чаканні зорак была вельмі ўзбуджаная. Але праца ахоўнікаў была настолькі незаўважальная і прафесійная, што нейкіх там эксцэсаў з досыць ужо «падагрэтай» аўдыторыяй не было. Прынамсі, нічога такога я не заўважыў.

І вось «N.R.M.» рыхтуецца да выступу. Халодныя гітары трохі скажаюць гучанне. Гэта выклікае неспакой ва ўдзельнікаў гурта, але граць трэба. І яны гэта зрабілі. Пачаўшы з «Беларускага шляха», скончылі «Песнямі пра каханне». Публіка шалела, крычала: «N.R.M.!», махала сцягамі. Было файна! Вось толькі галоўная польская зорка вечару - гурт «Kult» - нешта спазняецца. Арганізатары просяць «N.R.M.», якія ўжо збеглі са сцэны разам з інструментамі, заграць што-небудзь яшчэ, каб «забіць» паўзу. Лявон Вольскі не вельмі ахвотна, але пагаджаецца. Раптам ззаду чуецца гук рухавіка і бачныя фары машыны, якая вязе «Kult». Публіка імгненна забываецца на «N.R.M.». Хаця нехта яшчэ пляскае ў далоні ды падскоквае па інэрцыі, усе ўжо глядзяць не на сцэну, а ў бок - на «Kult». Сышоўшы са сцэны, Лявон пашкадаваў, што згадзіўся на такую авантуру, але было ўжо позна.



Шалкевіч на «Басовішчы» не спяваў, а толькі махаў сцягам



Казік Сташэўскі сёння сапраўдны кароль польскага року

«Як мне на «Басовішчы»? - кажа Лявон. - Даволі рэспектабельна. Яно ўжо на мяжы ператварэння са студэнцкага фестывалю, зробленага энтузіястамі, у польскі фестываль. Я лічу, што павінны быць толькі маладыя гурты. Не трэба запрашаць вялікіх зорак. А да польскіх гуртоў я стаўлюся адмоўна. Бо я думаю, што праз пэўны час фестываль папросту ператворыцца ў фестываль польскіх гуртоў, дзе будзе адзін-два беларускіх гурта».

«Kult» спазніўся, таму што граў канцэрт у іншым месцы. І прыехаў адразу пасля заканчэння таго канцэрту. Адпачыўшы паўгадзіны, яны (а фактычна гэта - зорка-выканаўца і саліст гурта Казік Сташэўскі) выходзяць на сцэну. Пачынаецца нешта неверагоднае. Усе скачуць, спяваюць разам з Казікам, нехта проста стаіць і зачаравана глядзіць на сцэну. Вось дзе сапраўдная папулярнасць, якой у нашых гуртоў пакуль няма. Адпрацаваўшы дзве з паловай гадзіны, Казік разам з гуртом сыходзяць са сцэны. Яшчэ паўгадзіны адпачынку - і Казік ужо раздае аўтографы шматлікім фанам. Яшчэ праз паўгадзіны гурт з'язджае ў невядомым кірунку. Вось так. Прыехалі, выступілі, з'ехалі. Амаль як у Цэзара. Большая частка фанатаў таксама з'ехала цягніком на 4.40, і ў лагеры засталося толькі дзесяткі два палатак ды стосы смецця. І гэта нягледзячы на тое, што паўсюль стаяць сметніцы. Культура, аднак.

Нам таксама няма чаго чакаць, і мы хутка з'язджаем. Найперш у Беласток, пазней у Кузніцу і ў Гродна. У якасці ўспаміну ад «Басовішча» засталіся брудныя штаны і галаўны боль. Але ніхто не сумняваецца, што роўна праз год, у той самы час, на тым самым месцы мы там будзем. Спадзяюся, што вас мы там таксама сустрэнем. Да пабачэння на «Басовішчы-2000». Жыве Беларусь!!!

**Рыгор Кавальчук**



Гарадзенец Ёрш (гурт «Кальян») вылучаўся сярод удзельнікаў фестывалю самымі вытанчанымі манерамі



Адмыслова да свята развітання з прэзідэнтам вакаліст гарадзенскага гурта «Deviation» Стас напісаў песню «Секс з прэзідэнтам»







# Усебеларускі з'езд 1917 года як зачатак станаўлення палітычнай нацыі беларусаў

**Працяг. Пачатак у №№ 40 - 42,44**

Пытанне аб падзеле дэлегатаў на фракцыі ў літаратуры даволі заблытанае. На наш погляд, фракцыйную структуру з'езда трэба разглядаць у дынаміцы, з улікам таго, што і колькасць дэлегатаў, і суадносіны паміж прыхільнікамі розных кірункаў (у межах левага крыла палітычнага спектра) няспынна мяняліся. Дыферэнцыяцыя на фракцыях пачалася 8-9 снежня, калі на з'ездзе прысутнічалі галоўным чынам дэлегаты, запрошаныя Вялікай Беларускай радай. Тады заявілі аб сваім існаванні Сацыялістычны блок (інакш - Аб'яднаная сацыялістычнай фракцыя рэвалюцыйных народнікаў і грамадоўцаў) і Левая фракцыя (Фракцыя левых сацыяліста-рэвалюцыянераў і беларускіх бальшавікоў, Фракцыя левай плыні)[100].

Пра першае ўтварэнне звесткі ў крыніцах вельмі фрагментарныя. У параўнанні з другім яно займала больш «правую» нішу, аб'ядноўвала дэлегатаў, што ішлі за нацыянальнымі адраджэнцамі з Беларускай сацыялістычнай грамады і блізкіх да яе групаў. Фракцыю ўзначальвалі Т.Грыб, С.Рак-Міхайлоўскі, А.Бурбіс, Я.Дыла ды іншыя. Па колькасці яна, відаць, была адносна нешматлікай, але згуртаванай і таму ўплывовай; у гэтым сэнсе ўяўляла своеасаблівы касцяк з'езда[101]. Зрэшты, калі верыць В.Захарку і К.Езавітаву (апошні змяшчае фракцыю на чале з БСГ у «цэнтр» кангрэса), яе колькасць у ходзе з'езда значна павялічылася за кошт беспартыйных[102]. Наконт галоўнага пытання, якое меўся вырашыць з'езд - аб краёвай уладзе на Беларусі - Сацыялістычны блок лічыў, што яе павінен усталяваць Беларускі Установчы сход шляхам усеагульных дэмакратычных выбараў («на аснове 5-членнай выбарчай формулы»). Часова, да склікання Установчага сходу, на чале Беларусі павінен стаць краёвы заканадаўчы орган, вылучаны са складу Усебеларускага з'езда «па тыпу савецкай улады» (што азначала забеспячэнне ў ім большасці за сялянамі, салдатамі і рабочымі) і папоўнены прадстаўнікамі з месцаў. Паколькі фракцыя не лічыла мясцовыя саветы ў Беларусі беларускімі, яна прапаноўвала, каб у часовы орган краёвай улады былі дэлегаваны прадстаўнікі ад гарадскіх і земскіх самакіраванняў, беларускіх сацыялістычных партый прафсаюзаў, а таксама ад нацыянальных меншасцяў краю[103].

Пра Левую фракцыю вядома больш - дзякуючы таму, што ў архіве захаваліся чарнавікі яе пратаколаў і спісы ўдзельнікаў (таксама ў чарнавым варыянце)[104]. Вядучую ролю ў фракцыі адыгрывалі Ф.Шантыр, У.Фальскі, М.Касцевіч, А.Акаловіч ды іншыя. В.А.Круталевіч без спасылкі на крыніцу вызначае колькасць «левай плыні» лічбай 60 [105]. Між тым, у спісах - відавочна, няпоўных - значыцца каля 120 чалавек. З іх, паводле нашых падлікаў, каля 60 чалавек называліся бальшавікамі або іх спачувальнікамі, каля 50 - левымі эсэрамі ды іх спачувальнікамі, астатнія -прыхільнікамі іншых адценняў сацыялізму, у тым ліку двое -І.Лагун і У.Фальскі - членамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. (Некалькі іншыя вынікі падлікаў падае У.Я.Казлякоў)[106]. Але не будзем абсалютызаваць гэтыя лічбы. Зразумела, што склад Левай фракцыі, як і іншых групаў дэлегатаў, не быў пастаянным. Ва ўмовах дынамічнага, нярэдка спантаннага працякання з'езда, дылучэнне кандыдатаў з ліку маладасведчаных сялян, салдат, рабочых да той або іншай фракцыі (як і выхад з яе) не абавязкова азначала ўсвядомлены выбар, магло быць кароткачасовым парывам, вынікам уздзеяння агульнага настрою, прапагандысцкіх здольнасцяў лідара і г.д. Паводле ўспамінаў М.Касцевіча і В.Захаркі, лідару Левай фракцыі Ф.Шантыру дзякуючы яго энергіі і апантанасці ўдалося на нейкі момант павесці за сабой да паловы з'езда[107]. Гэта выглядала праўдападобна: пры выбарах прэзідыума 9 снежня Левая фракцыя сабрала якраз амаль палову галасоў[108].

Крыніцы сведчаць пра тое, што мелі месца кантакты гэтай фракцыі з менскімі бальшавікамі, якія, відавочна, спрабавалі абаперціся на яе ў сваім імкненні раскалоць з'езд. З.Жылуновіч пісаў, што дэлегацыя БСДРП (б), якая ўваходзіла ў Левую фракцыю, «наладзіла сувязь з Менскім камітэтам РКП (б) і некалькі разоў інфармавала яго пра ходу працы на з'ездзе[109]. Са свайго боку аналагічныя звесткі падае ва ўспамінах супрацоўнік менскіх бальшавіцкіх газет Г.Усцінаў, накіраваны на з'езд абласным СНК у якасці «ўрадавага камісара» з заданнем не дапусціць рашэння аб фармаванні нацыянальных войскаў: «На з'ездзе я пастараўся адшукаць бальшавіцкую фракцыю, пагаварыў з шэрагам дэлегатаў-бальшавікоў, настойваючы, каб яны зараз жа пачалі выступаць як-небудзь, хаця б у парадку пазачарговай заявы аб зняцці з парадку дня пытання аб арганізацыі нацыянальнай арміі. Некаторыя дэлегаты пагадзіліся і выступілі...[110]» Ускоснае пацверджанне гэтай інфармацыі ёсць у пратаколах Левай фракцыі[111].

Аднак на шляху блакавання заходнефрантавога бальшавіцкага цэнтра з фракцыяй «бальшавізуючых» Усебеларускага з'езда паўстала перашкода, якая аказалася непераадольнай - беларускі патрыятызм апошніх. На ўсіх пасяджэннях Левай фракцыі рэфрэнам гучалі выказванні на карысць «улады чыста савецкай, але краёвай» (М.Касцевіч), «за ўладу селяніна, рабочага і салдата, за ўладу краёвую...» (М.Карнілаў), «за саветы рабочых, салдат і сялян, якія жывуць на Беларусі» (Зубрык) і г.д. Такой ідэяй была прасякнута і ўхвалена фракцыяй па прапанове Ф.Шантыра рэзалюцыя. Паводле яе, на перыяд да арганізацыі ўлады «беларускіх саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў па прынцыпу агульнарасійскай савецкай улады» Усебеларускі з'езд павінен быў вылучыць Часовы Выканаўчы камітэт, галоўная місія якога - «скліканне ў самы найкарацейшы тэрмін Беларускага Установчага сходу». Як бачым, у гэтай частцы рэзалюцыя «левых» мала чым адрознівалася ад прапановаў «правага» Сацыялістычнага блоку. Але ў адным пункце - аб адносінах да агульнарасійскай улады -разыходжанне заўважаецца: у рэзалюцыі аўтарства Ф.Шантыра Часоваму Выканаўчаму камітэту Беларусі даручаецца «ўвайсці ў кантакт з цэнтральным расійскім Саветам народных камісараў», чаго не знаходзім у аналагічным дакуменце блока памяркоўных беларускіх сацыялістаў»[112].

Захоплены грандыёзнасцю бальшавіцкіх праектаў «сусветнагістарычнага» размаху (але застаючыся пры тым шчырым беларускім патрыётам), Ф.Шантыр прастадушна спадзяваўся на парытэтны альянс з заходнефрантавымі бальшавікамі на платформе, выкладзенай у рэзалюцыі сваёй фракцыі. Аднак у СНК Заходняй вобласці і фронту, куды ён звярнуўся з адпаведнай прапановай, такую платформу катэгарычна адхілілі. Пасля гэтага актыўнасць Ф.Шантыра на з'ездзе стала згасаць, а роля Левай фракцыі пайшла на спад[113].

З моманту прыезду на з'езд Беларускага абласнога камітэта можна сказаць аб узнікненні трэцяй фракцыі пад умоўным найменнем «абласнікі». Яе ўзначалілі лідары БАК Я.Канчар, М.Гольман, А.Вазіла ды іншыя. Спачатку гэтая фракцыя была, як прыгадваў удзельнік з'езда, «не гэткая вялікая, але грызлівая»[114]. Аднак па меры прыбыцця новых дэлегатаў яна колькасна расла і набывала ўсё большую вагу. Яе падтрымлівалі прадстаўнікі сялянства, земская дзеячы - асабліва з усходняга рэгіёну Беларусі. Пад уплывам «абласнікоў» цалкам знаходзілася арганізаванае А.Вазілам Магілёўскае зямляцтва, у меншай ступені - Менскае. Аснову фракцыі складалі дзеячы мясцовых арганізацый агульнарасійскіх партый эсэраў, народных сацыялістаў, часткова - меншавікоў. Аднак адметнасць гэтай фракцыі (у параўнанні з папярэднімі) заключалася не столькі ў палітыка-партыйных характарыстыках, колькі ў адрознай этнакультурнай і нацыянальна-дзяржаўніцкай скіраванасці. «Абласнікі» аб'ядноўвалі вакол сябе дэлегатаў з найбольш размытай нацыянальнай самасвядомасцю, пераважна праваслаўных беларусаў, на якіх асабліва моцна паўплываў агульнарасійскі, імперскі характар. Адсюль - адназначная арыентацыя гэтай фракцыі на цесную, непарыўную сувязь Беларусі з Расіяй.

Чым бліжэй падыходзіў з'езд да свайго апагею, тым відавочней партыйна-палітычная дыферэнцыяцыя дэлегатаў на «правых» і «левых» адыходзіла на задні план, а ў якасці галоўнай лініі падзелу праступаў пакінуты ў спадчыну папярэднімі стагоддзямі больш глыбокі, цывілізацыйны разлом тутэйшага грамадства на носьбітаў візантыйска-праваслаўнага сацыякультурнага кода - прыхільнікаў далейшага дрэйфу Беларусі на ўсход у складзе анахранічнай супердзяржавы імперскага тыпу, і тых, чыя ментальнасць заставалася адкрытай каштоўнасцям заходняй, еўрапейскай цывілізацыі з шанаваным там ідэалам самастойнай нацыі - дзяржавы. Натуральна, што пераадоленне гэтага разлому ў рамках адной палітычнай нацыі, нават такой значнай, як Усебеларускі з'езд -справа недасягальная. І ўсё ж, сустрэўшыся, бадай, упершыню ў гісторыі ў адным месцы ў адзін час, важакі абодвух плыняў пры абмеркаванні жыццёва-практычных, востра злабадзённых праблемаў народнага быцця знаходзілі сілы, каб пакінуць убаку адчужанасць і выпрацаваць узаемапрымальныя рашэнні.

Разглядаючы працу Усебеларускага з'езда, даследчыкі звычайна канцэнтруюць увагу на занятай ім пазіцыі па пытанні аб уладзе. Між тым тэматыка з'езда непараўнальна шырэй: ён сфакусіраваў практычна ўсе найважнейшыя праблемы, якімі жыло беларускае грамадства напрыканцы 1917 года - ад эканомікі да культуры. Для распрацоўкі асобных блокаў пытанняў былі арганізаваны секцыі, пры якіх утвараліся яшчэ больш спецыялізаваныя камісіі. Арганізатары з'езда прадугледжвалі стварэнне васьмі секцыяў[115]. Паводле інфармацыі К.Езавітава, на форуме працавала 12 секцый[116]. Сярод іх былі секцыі па пытаннях гаспадаркі і фінансаў, нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, мясцовага самакіравання, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, арганізацыі беларускіх войск, бежанская, культурна-асветная і г.д. Праца ў секцыях і камісіях, пасяджэнні якіх былі адкрытымі, даклады, што там гучалі, для многіх дэлегатаў «былі першаю грамадскаю школаю і сапраўднымі курсамі ведаў аб Беларускім краі, яго патрэбах і аб спосабах, якімі гэтыя нацыянальныя патрэбы магчыма задаволіць»[117].

Падыходы з'езда да сацыяльна-культурных праблемаў неслі на сабе адбітак сацыялістычных прыхільнасцяў большасці дэлегатаў. Нацыянальныя інтарэсы беларускага народа яны разумелі як інтарэсы працоўнага люду, найперш сялянства. У рэзалюцыях многіх секцый і камісій гучыць ідэя сацыяльнай справядлівасці, сцвярджаецца неабходнасць забяспечыць роўнасць паміж індывідамі, групамі насельніцтва і цэлымі народамі. Паводле словаў Я.Канчара, «з'езд стаў на пункт гледжання абароны інтарэсаў працы ад эксплуатацыі капітала»[118]. Прадугледжвалася неадкладнае ўвядзенне народнага кантролю над вытворчасцю і гандлем - як з боку дзяржавы, так і грамадскіх дэмакратычных арганізацый; 8-гадзінны працоўны дзень не толькі на фабрыках, але і ў сельскай гаспадарцы і г.д.[119] Будучая фінансавая сістэма Беларусі праектавалася адпаведнай секцыяй як аўтаномная, са сваім бюджэтам, але на аснове агульнарасійскай грашовай адзінкі. Пры гэтым меркавалася, што федэральны цэнтр стане «рэгулятарам» справядлівага размеркавання сродкаў паміж асобнымі рэспублікамі», каб не дапусціць няроўнасці ў даходах з-за неаднолькавых прыродна-кліматычных умоваў, запасаў сыравіны і г.д.[120]

Плённай была праца культурна-асветнай секцыі з'езда. К.Езавітаў пералічвае аж 10 утвораных пры ёй камісій: па пытаннях вышэйшай, сярэдняй, пачатковай, прафесійнай адукацыі, дашкольнага і пазашкольнага выхавання, па выяўленчым мастацтве, тэатральная, музейная і фальклорная[121]. Падрыхтаваныя секцыяй прапановы ўключалі ўвядзенне ўсеагульнай бясплатнай адукацыі, неадкладнае адкрыццё Беларускага ўніверсітэта, сельскагаспадарчага інстытута, пашырэнне сеткі тэхнічных навучальных установаў у г.д. Кампрамісным выглядае рашэнне адносна моўнай палітыкі: паводле сведчання Я.Канчара, дзяржаўнай мовай прадугледжвалася пакінуць рускую, «але яна паступова замяняецца беларускай згодна з патрабаваннем самога народа»[122].

Пры абмеркаванні многіх канкрэтных праблемаў дэлегаты пераконваліся, што іх немагчыма вырашыць у інтарэсах большасці мясцовага насельніцтва без забеспячэння цэласнасці Беларусі і стварэння агульнабеларускага органа ўлады. Так, па аграрным пытанні ў якасці асноўнага прынцыпу зямельнай рэформы для ўсёй Расіі выстаўлялася патрабаванне бязвыплатнай перадачы ўсёй зямлі «ў рукі працоўнага сялянства», але кожная вобласць і кожны народ павінны былі атрымаць права «выкарыстоўваць і прыстасоўваць гэтыя агульнапрынятыя асновы розным спосабамі і ў розных формах адпаведна сваім умовам, адпаведна звычкам, звычаям і норавам свайго народа і ўзроўню яго сельскагаспадарчай культуры». Адначасова падкрэслівалася, што «не можа быць справядлівых працоўных зямельных парадкаў у краіне заваяванай, гвалтоўна кіруемай, у краіне несвабоднай, у якой сам народ сваім лёсам не распараджаецца»[123].

Пры разглядзе надзвычай балючага пытання аб становішчы пацярпелага ад вайны насельніцтва, асабліва бежанцаў, гаварылася, што суседнія народы «арганізавалі дапамогу на сваіх нацыянальных асновах; адны беларусы, як і заўсёды і ўсюды, аказаліся бяссільнымі». Стала таксама вядома, што маёмасць дэмабілізуемага Заходняга фронту, «ідзе на бок, так, лепшых коней перадаюць у польскія войскі і абозы, а нам нічога не застаецца»[124]. З'езд вырашыў пакінуць у краі армейскія інжынерна-будаўнічыя і дарожныя атрады для аднаўлення разбураных жылых і гаспадарчых аб'ектаў, а маёмасць ліквідуемых арганізацый УЗС і УСГ (інвентар, транспартныя сродкі, абмундзіраванне, запасы харчавання і фуражу) перадаць мясцоваму насельніцтву ў якасці кампенсацыі за нанесены ўрон. Было прызнана неабходным «аб'явіць {набыткам Беларусі} маёмасць і капіталы вайсковых і грамадскіх арганізацый», а для арганізацыі працы па аднаўленні гаспадаркі, рээвакуацыі прадпрыемстваў і ўстановаў, дапамозе бежанцам утварыць у Менску спецыяльны орган кіравання. Але справа зноў упіралася ў праблему ўлады: «Раз мы не вырашым пытанне аб уладзе, то і з нашым органам лічыцца не будуць»[125]. Што гэта так, імгненна пацвердзілася. 17 снежня 1917 года (у дзень разгону з'езда) СНК Заходняй вобласці і фронту спешна абвясціў аб узяцці ў сваё распараджэнне «шматмільярднай маёмасці {Заходняга} фронту, сабранай намаганнямі і сродкамі ўсёй Расіі»[126].

Логіка падзеяў падводзіла да высновы, што гарантам выканання пастановаў з'езда павінна стаць беларускае войска. На гэтай прынцыповай пазіцыі сыходзіліся абодва крылы з'езда: і «радаўскае», і «абласніцкае»[127]. Нацыянальна-тэрытарыяльнае войска магло нейтралізаваць супраціўленне памешчыкаў пры ажыццяўленні аграрнай рэформы, абараніць мясцовае насельніцтва ад тэрору дэмаралізаваных франтавых часцей, захаваць ад рабавання уцалелыя рэшткі маёмасці і г.д.[128] У матывацыі «абласнікоў» акцэнтавалася яшчэ неабходнасць супрацьстаяння экспансіі з боку немцаў і палякаў; у гэтай ролі нацыянальная армія, ахоўваючы тэрыторыю Беларусі, адначасова ахоўвала б і заходнюю мяжу ўсёй федэратыўнай Расіі, што давала падставу патрабаваць, каб апошняя ўзяла ўтрыманне беларускага войска на сябе[129].

Трывожны міжнародны фон для працы Усебеларускага з'езда стваралі пачатыя 9 снежня 1917 года ў Брэсце перамовы Савецкай Расіі з дзяржавамі германскага блоку. Прадметам вострай занепакоенасці ўсіх дэлегатаў - незалежна ад іх партыйнасці і арыентацыі -з'ўлялася пытанне аб лёсе акупаваных немцамі Гарадзенскай і Віленскай губерняў, гэта значыць аб цэласнасці Беларусі. Клопат пра цэласнасць нацыянальнай тэрыторыі ў кантэксце тагачаснай сітуацыі быў не данінай прыгожаму палітычнаму прынцыпу, а дыктаваўся суровымі рэаліямі: без уз'яднання абедзвюх частак краю не маглі вярнуцца да родных сялібаў больш за мільён бежанцаў і сотні тысяч салдат-беларусаў. Я.Лёсік пісаў у тыя дні: «Цэльнасць нашае зямлі {...} для нас - гэта пытанне жыцця і смерці»[130]. Між тым звесткі, што даходзілі на гэты конт з Брэста, былі супярэчлівымі. Савецкая дэлегацыя настойвала на вывадзе германскіх войск з усіх акупаваных тэрыторый і выяўлення шляхам рэферэндума волі тых нацыянальных групаў, якія да вайны не карысталіся палітычнай самастойнасцю. Краіны Чацвярнога саюза к канцу першага раунда перамоваў як быццам пагадзіліся з такімі прынцыпамі[131]. На запыты дэлегатаў Усебеларускага з'езда, ці распаўсюджваюцца гэтыя прынцыпы на Беларусь, савецкія наркомы Л.Троцкі ды І.Сталін давалі нязменна станоўчыя адказы[132]. У той жа час падозру выклікаў рэжым сакрэтнасці, створаны вакол перамоваў. Праз газеты ды іншыя неафіцыйныя каналы даходзіла інфармацыя пра верагоднасць далучэння беларускіх земляў ці то да Польшчы, ці да Літвы[133]. Рабілася відавочным, што без удзелу у перамовах саміх беларусаў ніякіх гарантый захавання цэласнасці краю няма. Само жыццё вымагала ад Беларусі стаць суб'ектам міжнародных адносінаў, набыць, як пісаў Я.Канчар, свой «юрыдычны твар». Для гэтага патрабавалася здзейсніць акт самавызначэння, заклаці пачатак нацыянальнай дзяржаўнасці.

**Станіслаў Рудовіч**

**Працяг будзе**

[100] БГЧ. 1993. N2. С.51.
[101] Показания А.Смолича от 20 октября 1930 г.// Навіны Беларускай акадэміі. 1992. 11 снеж.; Захарка В. Назв. тв.//Спадчына. 1997. N5. С.12-13; Круталевич В.А. Указ. соч. С. 130.
[102] Захарка В. Назв. тв.//Спадчына. 1997. N5. С.12-13; Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С.26.
[103] НА РБ, ф. 235, воп.1, спр.2, арк.77.
[104] НА РБ, ф. 235, воп.1, спр.1, арк.3-23.
[105] Круталевич В.А. Указ. соч. С.129.
[106] Козляков В. Указ. соч.//Беларуская думка. 1996. N2. С. 121.
[107] Краўцоў М. Усебеларускі з'езд 1917 г.//Наша Ніва. 1997. 20 кастр. Ён жа. 20 гадоў назад//Спадчына. 1996. N1. С.191; Захарка В. Назв. тв.//Там жа. 1997. N5. С.12; Гл. таксама: Жылуновіч З. Беларускія секцыі РКП і стварэнне Беларускай савецкай Рэспублікі//Полымя. 1928. N10. С.27; апошні аўтар заслугу ў «бальшавізацыі» паловы з'езда адводзіць дэлегатам ад БСДРП (б).
[108] БГЧ. 1993. N2, С.51.
[109] Жылуновіч З. Назв. тв.//Полымя. 1928. N10. С.77.
[110] НА РБ, ф.4683-п, воп. 3, спр. 433, арк. 8-9.
[111] Там жа, ф. 325, воп.1, спр. 1, арк.4-5.
[112] НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр.1, арк. 18-18 адв.; спр. 2, арк. 77.
[113] Краўцоў М. Усебеларускі з'езд 1917 г.//Наша Ніва. 1997. 20 кастр. 20 гадоў назад//Спадчына. 1996. N1. С.191; Захарка В. Назв. тв.//Там жа. 1997. N5. С.12.
[114] А.В. Усебеларускі кангрэс у Менску...//Запісы. Кн. 3. С. 146.
[115] НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр. 2, акр. 118; БГЧ. 1993. N1. С.66-67.
[116] Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С. 27.
[117] Там жа.
[118] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С. 72.
[119] Там же; Турук Ф. Белорусское движение. Прилож. 15. С. 106.
[120] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С. 71.
[121] Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С. 27.
[122] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С. 72-73.
[123] Турук Ф. Белорусское движение. Прилож. 15. С. 106; БГЧ. 1993. N2, С.52-53.
[124] БГЧ. 1993. N1. С.68; N3. С.69.
[125] НА РБ, ф.325, воп. 1, спр. 19, арк. 125; Турук Ф. Белорусское движение. Прилож. 15. С. 106-107; ГЧ. 1993. N3. С.69; N4. С.55.
[126] Социалист-революционер. 1917. 21 дек.
[127] Турук Ф. Белорусское движение. Прилож. 15. С. 106.
[128] НА РБ, ф.325, воп. 1, спр. 5, арк. 39.
[129] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С. 70.
[130] Лёсік Я. Вайна і мір//Вольная Беларусь. 1917. 21 снеж.; Тое ж//Лёсік Я. Творы Мн., 1994. С.251.
[131] Документы внешней политики СССР. Т. 1. С. 59-61, 68-69.
[132] Известия Бобруйского Совета рабочих и солдатских депутатов. 1917. 22 дек; Чарвякоў А. За Савецкую Беларусь; БГЧ. 1993. N3. С.66.
[133] БГЧ. 1993. N3. С.62,66.

